БЕЛАРУСКІ РЭСТАЎРАЦЫЙНА-ПРАЕКТНЫ ІНСТЫТУТ
БЕЛАРУСКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ
НАЦЫЯНАЛЬНЫ НАВУКОВА-АСВЕТНЫ ЦЭНТР ІМЯ Ф. СКАРЫНЫ

# ДАКУМЕНТЫ ПА АРХІТЭКТУРЫ І КАРТАГРАФІІ БЕЛАРУСІ Ў АРХІВАХ САНКТ-ПЕЦЯРБУРГА І ВІЛЬНІ

МІНСК
"БЕЛАРУСКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ"
1994

УДК [72+528.9]: 930.253 (470.23-25)

Рэдакцыйная калегія:

А.В.Мальдзіс (галоўны рэдактар),
Л.Я.Кулажанка, Н.І. Пятровіч, А.А.Трусаў, М.М.Яніцкая.

Складальнікі:

Ул. Дзянісаў, В.Р.Кукуня,
М.В.Плакса (геаграфічны паказальнік), Н.І.Пятровіч.

У зборніку падаюцца назвы спраў, у якіх захоўваюцца картаграфічныя матэрыялы, планы населеных пунктаў і чарцяжы розных архітэктурных збудаванняў 18—пач. 20 ст. (Расійскі дзяржаўны архіў Ваенна-марскога флоту, Санкт-Пецярбург), а таксама фота і чарцяжы помнікаў архітэктуры Беларусі (Дзяржаўны гістарычны архіў Рэспублікі Літва і Аддзел рукапісаў Навуковай бібліятэкі Віленскага універсітэта).

Зборнік уяўляе цікавасць для гісторыкаў, краязнаўцаў, мастацтвазнаўцаў, архітэктараў і ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй беларускай культуры.

Д $\frac{7200000000-026}{М 318(03)-94}$ 11-94

ISBN 5-85700-164-1

# ЧАСТКА І

## БЕЛАРУСКІЯ КАРТАГРАФІЧНЫЯ МАТЭРЫЯЛЫ Ў РАСІЙСКІМ ДЗЯРЖАЎНЫМ АРХІВЕ ВАЕННА-МАРСКОГА ФЛОТУ (САНКТ-ПЕЦЯРБУРГ)

# ПРАДМОВА

Расійскі Дзяржаўны Архіў Ваенна-марскога флоту — адзін з самых старажытных архіваў Расіі. Гісторыя яго пачынаецца з 1724 г., калі быў створаны Архіў Адміралцейств-калегіі (раней дакументы, звязаныя з Ваенна-марскім флотам, захоўваліся ва ўстановах і канцылярыях начальнікаў ваенных ведамстваў). У 1827 г. справы Архіва Адміралцейств-калегіі былі перададзены ў Архіў Марскога міністэрства (створаны ў 1802 г.). У жніўні 1917 г. Архіў Марскога міністэрства перайменаваны ў Цэнтральны Архіў флоту і марскога ведамства, у 1918 г. атрымаў статус Дзяржаўнага Архіва, з 1941 г. — Цэнтральны дзяржаўны архіў Ваенна-марскога флоту СССР.

У фондах Архіва захоўваюцца дакументы Ваенна-марскога флоту Расіі ад пачатку яго стварэння (канец 17 ст.) да 1940 г. па гісторыі стварэння і будаўніцтва, пра геаграфічныя і навуковыя адкрыцці, суднабудаўнічыя прадпрыемствы, дзеячаў флоту і г.д. Ёсць у Архіве дакументы па асобных пытаннях грамадзянскай гісторыі.

У Архіве багатая калекцыя картаграфічных матэрыялаў, планаў і чарцяжоў: карты і атласы Расійскай імперыі, у тым ліку атлас з новым адміністрацыйна-тэрытарыяльным падзелам (1807), генеральная карта Расіі (1816), карта Еўрапейскай часткі Расіі з межамі губерняў, паветаў і пагранічнымі мытнямі (1818), карты і атласы асобных губерняў (атласы рэк з населенымі пунктамі, дзе ёсць звесткі пра заснаванне гарадоў, колькасць жыхароў, будаўніцтва крэпасцей і інш.).

Для даследчыкаў гісторыі архітэктуры Беларусі вялікую цікавасць уяўляюць матэрыялы, якія захоўваюцца ў фондзе «Главного инженерного управления Военного министерства России» (ф. 3Л). У гэтым фондзе больш за 44000 адзінак захавання.

Галоўнае інжынернае ўпраўленне (1862—1913) займалася падрыхтоўкай, камплектаваннем і ўлікам асабовага складу інжынерных войскаў, вяло ўсе віды ваеннага будаўніцтва, уключаючы крэпасці і чыгункі, па ўсёй тэрыторыі Расійскай імперыі, у тым ліку і на тэрыторыі Беларусі. Сярод дакументаў фонду ёсць каштарысы, тэхнічныя нормы, справаздачы аб будаўніцтве крэпасцей, чыгунак, мастоў і іншых аб'ектаў, якія належалі ваеннаму ведамству (казармы, шпіталі, магазіны, лазні і інш.). У

фондзе захоўваецца вялікая колькасць карт, планаў і чарцяжоў 17 — пач. 20 ст. Гэтыя графічныя матэрыялы ўмоўна можна падзяліць на 2 часткі. У першую ўваходзяць карты і планы розных дзяржаў Еўропы, Азіі і Амерыкі, у другую — планы і карты асобных правінцый і раёнаў, планы крэпасцей, губернскіх і павятовых гарадоў, іншых населеных пунктаў Расійскай імперыі. Большая частка матэрыялаў былога Галоўнага інжынернага ўпраўлення захоўваецца ў Расійскім дзяржаўным ваенна-гістарычным архіве ў Маскве (у 1957 г. дакументы фонду былі падзелены паміж ЦДВГА СССР у Маскве і ЦДА ВМФ у Ленінградзе).

Для даследчыкаў беларускай гісторыі найбольш каштоўныя матэрыялы вопісаў 23—27, якія захоўваюцца ў РДАВМФ у Санкт-Пецярбургу, дзе сабрана вялікая калекцыя карт, планаў населеных пунктаў і чарцяжоў розных збудаванняў, якія належалі ў 18 — пач. 20 ст. ваеннаму ведамству на тэрыторыі Беларусі.

Вопісы складзены ў алфавітным парадку. Назвы спраў максімальна набліжаны да подпісаў на дакументах.

У 23-м вопісе 3536 адзінак захавання. Тут вялікая калекцыя карт 18 — пач. 20 ст., на якіх пазначана і тэрыторыя Беларусі. Асабліва каштоўныя ваенна-тапаграфічныя карты для падрыхтоўкі праектаў рэгенерацыі гарадоў і невялікіх населеных пунктаў. Вялікую цікавасць уяўляе збор атласаў, альбомаў і чарцяжоў крэпасцей і ўмацаванняў ліній Расіі (адзінкі захавання 933—986). «Альбом планов и описание крепостей Российской Империи и укрепленных линий» 1792 г. мае планы Полацка і Рагачова (лісты 10 і 12).

Шмат сабрана матэрыялаў пра будаўніцтва крэпасцей у Бабруйску (220 адзінак) і Брэсце (415 адзінак).

Да 1957 г. ў вопісе 23-м захоўваліся матэрыялы пра г. Гомель (адзінкі захавання 2938—3057; перададзены ў Маскву).

Вопіс 24-ы мае 3291 адзінку. Сярод гэтых дакументаў 7 планаў гарадоў Беларусі: Клімавіч, Кобрына, Копысі, Мінска (2 планы), Магілёва і Мазыра.

Вопіс 25-ы складаецца з 2526 адзінак захавання, у 35 ёсць матэрыялы пра Беларусь: 14 дакументаў па Нясвіжы (чарцяжы розных будынкаў, у тым ліку і матэрыялы па былым калегіуме езуітаў; адзінкі захавання 384 і 391), план г. Навагрудка 1834 г., на якім дадзены памеры дома Міцкевічаў і інш.

У вопісе 26-м 3694 адзінкі, 47 адзінак з інфармацыяй пра Беларусь: матэрыялы па праектаванні крэпасці ў Рагачове (адзінкі захавання 1543—1654), чарцяжы будынкаў на тэрыторыі Рагачоўскага замка (адзінка захавання 1656), дакументы забу-

довы г. Слуцка, чарцяжы замка ў Быхаве (адзінкі захавання 3306—3319), план мястэчка Стоўбцы Мінскай вобл.

Воп. 27-ы налічвае 1650 адзінак, з іх 13 чарцяжоў розных населеных пунктаў Беларусі.

Фонд 1331-ы «Атласы, карты и планы Центрального картографического производства ВМФ. Коллекция» (17 ст. — 1914 г., 2074 адзінкі захавання) таксама змяшчае графічныя матэрыялы па Беларусі. У гэтай калекцыі захоўваюцца унікальныя картаграфічныя матэрыялы, у тым ліку старажытныя атласы, карты і планы розных частак свету. Пачынаючы з 1950-х гадоў, гэтыя дакументы былі перададзены з Архіва Цэнтральнай картаграфічнай вытворчасці ВМФ у ЦДА ВМФ СССР. 13 дакументаў фонду, якія маюць адносіны да Беларусі, уключаны ў гэты каталог: карта Вялікага княства Літоўскага (1770 г.), карты Магілёўскай і Мінскай губерняў 18—19 стст. Для даследчыкаў архітэктуры іх каштоўнасць у тым, што на картах пазначаны межы правінцый і паветаў, населеныя пункты, дарогі, цэрквы, касцёлы і манастыры. Значную цікавасць уяўляюць рукапісныя карты і атласы рэк Сожа і Дняпра, складзеныя ў 18 ст. На іх падрабязна паказаны берагі рэк, вусці прытокаў, межы зямельных участкаў, што прылягалі да ракі, прозвішчы іх уладальнікаў. На картах ёсць планы населеных пунктаў, у тым ліку г. Магілёва (1784—1786), Чэрыкава, Чачэрска, выявы крэпасцей, замкаў, цэркваў, манастыроў.

На «Топографической карте р. Припяти...» пач. 20 ст. (вопіс 6, адзінка захавання 320) і «Подробных планах р. Западной Двины от Витебска до Динабурга...» 1886—1887 гг. (вопіс 3, адзінка захавання 86) ёсць дакладныя планы ўсіх населеных пунктаў, размешчаных па берагах рэк.

Улічваючы, што ў вопісах фонду 1331-га назвы адзінак захавання былі пададзены спрошчана і не давалі ўяўлення пра змест дакументаў, намі складзены падрабязныя апісанні кожнага дакумента, у якім ёсць матэрыялы па Беларусі.

Неабходна яшчэ адзначыць фонд 326-ы «Строительные чертежи. Коллекция» (1702—1916 гг., 19213 адзінак захавання). Большая частка гэтых дакументаў паступіла ў Архіў з «Управления Морской строительной части Морского министерства России» да 1917 г. Матэрыялы па будаўніцтве на тэрыторыі Беларусі трапілі ў гэтую калекцыю хутчэй за ўсё выпадкова. Маюцца на ўвазе чарцяжы дамоў для забудовы фарштатаў Бабруйскай крэпасці (29 адзінак захавання, 1825 г.), а таксама чарцяжы флігеля ў Пружанах 1913 г.

*Ул. Дзянісаў.*

## Галоўная інжынерная ўправа Ваеннага міністэрства Расіі

### Фонд 3/л

### Вопіс 23

### Карты Еўрапейскай і Азіяцкай частак Расіі, карты і планы водных басейнаў

спр. 179 Карты заходняй часткі Расіі з паказам мяжы з Польшчай, спрэчных зямельных участкаў, фарпостаў і апорных пунктаў, з апісаннем фортаў. 1753—1754 гг. Каляровыя. М 155 мм = 2 вярстам. Памер 700х3000. 4 лл.

спр. 180 Карты заходняй часткі Расіі і Усходняй Польшчы. 18 ст. Рукапісныя. Каляровыя. Б/м. Памер 905х710. 1 л.

спр. 285 Тапаграфічная карта заходняй часткі Еўрапейскай Расіі ў раёне гарадоў Вільні і Дзвінска. 1913 г. Друкаваная. Каляровая. М 1 дм = 10 вярстам. Памер 700х600. 1 л.

спр. 289 Тапаграфічная карта Расіі, Рэчы Паспалітай, Скандынавіі і сумежных з імі тэрыторый. Выдадзена Фістэрам у Амстэрдаме. 18 ст. На лац. мове. Каляровая гравюра. М 1 міля = 10°. Памер 610х540. 1 л.

спр. 290 Тапаграфічная карта Расіі, Польшчы, Скандынавіі і сумежных з імі тэрыторый. Выдадзена Сандрартам у Нюрнбергу. 18 ст. На лац. мове. Гравюра. М 1 міля = 80°. Памер 640х530. 1 л.

спр. 295 Карта тэрыторый уздоўж мяжы Расіі з Польшчай. 1782 г. Каляровая копія. Б/м. Памер 1840х1100. 1л.

спр. 296 Карта тэрыторыі ўздоўж мяжы Расіі з Польшчай. 18 ст. Каляровая. М 1 дм = 200 сажням. Памер 950х1020. 1 л.

спр. 297 Карта тэрыторыі, якая адышла да Расіі ў выніку 2-га падзелу Рэчы Паспалітай. 1793 г. Каляровая. М 104 вярсты = 1°. Памер 550х750. 1 л.

спр. 298 Ваенна-тапаграфічная карта Заходняй Расіі і часткі Польшчы. Б/д. Друкаваная. Каляровая. Б/м. Памер 1260х970. 1 л.

спр. 481 Карта Вялікага княства Літоўскага, складзеная генерал-маёрам дэ Вітам. 18 ст. Каляровая. М 2 см = 5 нямецкім мілям. Памер 535х455. 1 л.

спр. 608 Зборная ваенна-тапаграфічная карта Еўрапейскай часткі Расіі (Віцебская губ.). 1866—1877 гг. Б/м. 11 лл.

спр. 618 Зборная ваенна-тапаграфічная карта Еўрапейскай часткі Расіі (Віленская, Віцебская, Мінская, Магілёўская губ.). 1865—1878 гг. М 1:126000. Памер 650х490. 16 лл.

спр. 621 Зборная ваенна-тапаграфічная карта Еўрапейскай часткі Расіі (Віленская, Гродзенская, Мінская, Магілёўская губ.). 1865—1878 гг. Б/м. Б/п. 16 лл.

спр. 623 Зборная ваенна-тапаграфічная карта Еўрапейскай часткі Расіі (Гродзенская, Мінская, Магілёўская губ.). 1865—1878 гг. Б/м. Б/п. 16 лл.

спр. 626 Зборная ваенна-тапаграфічная карта Еўрапейскай часткі Расіі (Гродзенская, Мінская губ.). 1866—1877 гг. М 1:126000. Памер 650х490. 16 лл.

спр. 694 Ліст зборнай ваенна-тапаграфічнай карты Заходняй часткі Расіі (Віленская, Гродзенская губ.). 1913—1914 гг. М 1 дм = 2 вярстам. Памер 460х410. 18 лл.

спр. 702 Ліст зборнай ваенна-тапаграфічнай карты Заходняй часткі Расіі (Віленская, Віцебская, Гродзенская, Мінская губ.). 1913—1914 гг. М 1 дм = 2 вярстам. Памер 460х410. 21 л.

спр. 726 Тапаграфічная карта Віленскай губерні. Складзена на матэрыялах здымкаў Трэнера. 1836 г. Гравюра. М 5 мм = 1 вярсце. Памер 705х600. 9 лл.

спр. 729 Карта Віленскай губерні. Б/д. Друкаваная. М 1 дм = 15 вярстам. Памер 820х615. 1 л.

спр. 730 Тапаграфічная карта Віленскай і Мінскай губ. 1915 г. Друкаваная. М 1 дм = 3 вярстам. Памер 1200х900. 1 л.

спр. 731 Зборная тапаграфічная карта Віцебскай губ. 1858 г. Гравюра. М 1 дм = 3 вярстам. Памер 650х490. 1 л.

спр. 734 Карта Віцебскай губ. 1841 г. Друкаваная. Каляровая. М 1 дм = 20 вярстам. Памер 600х460. 9 лл.

спр. 751 Зборная тапаграфічная карта Гродзенскай губ., складзеная паводле даных здымкаў Ракасоўскага, Азерскага і Якаўлева. 1841 г. М 5 мм = 1 вярсце. Памер 660х495. 9 лл.

спр. 754 Зборная тапаграфічная карта Гродзенскай губ. 1856 г. Гравюра. М 1 дм = 3 вярстам. Памер 650х490. 22 лл.

спр. 755 Зборны ліст тапаграфічнай карты заходняй часткі Гродзенскай губ. 2-я пал. 19 ст. Гравюра. Б/м. Памер 350x395. 1 л.

спр. 756 Тапаграфічная карта Шчучынскага і Беластоцкага паветаў Гродзенскай губ. 1900 г. Друкаваная. М 12,5 = 250 сажням. Памер 720x490. 1 л.

спр. 820 Зборная тапаграфічная карта Мінскай губ., складзеная паводле даных здымкаў Рыцінгофа. 1846 г. Гравюра. М 5 мм = 1 вярсце. Памер 560x465. 21 л.

спр. 821 Зборная тапаграфічная карта Мінскай губ. Сярэдзіна 19 ст. Гравюра. М 1 дм = 3 вярстам. Памер 650x490. 42 лл.

спр. 823 Тапаграфічная карта Мінскай губ. 1915—1916 гг. Друкаваная. М 1 дм = 2 вярстам. Памер 800x1000. 1 л.

спр. 824 Тапаграфічная карта Мінскай губ. з паказам месцазнаходжання ўмацаванняў і артылерыі. 1916 г. Каляровая. М 1 дм = 250 сажням. Памер 500x650. 11 лл.

спр. 825 Зборная тапаграфічная карта Мінскай губ. Б/д. Друкаваная. М 1 дм = 5 вярстам. Памер 560x470. 21 л.

## Атласы, карты і чарцяжы крэпасцей і ўмацаванняў Расіі

спр. 941 Планы пагранічных крэпасцей і ўмацаванняў Расіі. Падпісаныя генерал-ад'ютантам Кушалёвым. 1786—1797 гг. Каляровыя. М 1 мм = 10 сажням. Памер 995x680. 1 л.

спр. 942 Альбом планаў і апісанне крэпасцей і ўмацаваных ліній Расійскай імперыі. 1792 г. Каляровы. Б/м. Памер 232x470. 50 лл.

спр. 943 Атлас планаў пагранічных крэпасцей, гарадоў і ўмацаваных ліній Расійскай імперыі. 1794 г. Каляровы. Б/м. Памер 354x520. 36 лл.

спр. 944 Альбом планаў пагранічных крэпасцей Расійскай імперыі. 1794 г. Каляровы. Б/м. Памер 352x520. 102 лл.

спр. 945 Альбом планаў крэпасцей і ўмацаванняў Расійскай імперыі. 1795 г. Каляровы. Б/м. Памер 304x470. 27 лл.

спр. 946 Атлас планаў і апісанне крэпасцей Расійскай імперыі. 1796 г. Каляровы. Б/м. Памер 260x430. 74 лл.

спр. 947 Атлас планаў і апісанне крэпасцей Расійскай імперыі. 1794 г. Каляровы. Б/м. Памер 300x450. 46 лл.

спр. 948 Альбом чарцяжоў рускіх крэпасцей і ўмацаванняў. 1799 г. Каляровы. Б/м. Памер 710х520. 67 лл.

спр. 949 Атлас планаў і чарцяжоў гарадоў, крэпасцей і казённых будынкаў Расійскай імперыі. 1799 г. Каляровы. Б/м. Памер 764х540. 53 лл.

спр. 951 Атлас планаў крэпасцей і ўмацаванняў Расіі. 2-я пал. 18 ст. Рукапісны. Каляровы. Б/м. Памер 400х530. 144 лл.

спр. 952 Альбом чарцяжоў крэпасцей Расіі. 1818 г. Каляровы. Б/м. Памер 770х522. 52 лл.

спр. 953 Атлас чарцяжоў крэпасцей Расійскай імперыі. 1825—1850 гг. Б/м. Памер 100х660. 51 л.

спр. 954 Альбом картаў і планаў геадэзічных вымярэнняў і тапаграфічных здымкаў Расіі з 1826 па 1850 г. Б/м. Памер 640х900. 9 лл.

спр. 955 Атлас чарцяжоў умацаванняў і крэпасцей Расіі за 1825—1850 гг. Складзены інжынерным дэпартаментам. Выдадзены Чарнышовым. Каляровы. Б/м. Памер 530х645. 51 л.

спр. 956 План рускіх крэпасцей. 1-я пал. 19 ст. Каляровы. М 1 дм = 1 вярсце. Памер 990х700. 1 л.

спр. 957 Альбом картаў і планаў крэпасцей і ўмацаванняў Расійскай імперыі. Б/д. Каляровы. Б/м. Памер 390х516. 116 лл.

## Карты і планы гарадоў, крэпасцей, умацаваных і неўмацаваных населеных пунктаў. Чарцяжы розных пабудоў

спр. 1048 Бабінавічы Магілёўскай губ. План горада. 1778 г. Каляровая копія. М 1 дм = 100 сажням. Памер 940х620. 1 л.

спр. 1058 Баранавічы. Станцыя. Агульны план палігона чыгуначнай брыгады. 1889 г. М 1 дм = 80 сажням. Памер 600х700. 1 л.

спр. 1059 Баранавічы. План і разрэз будынка афіцэрскай сталовай у лагеры чыгуначнай брыгады пры станцыі. 1884 г. М лінейны. Памер 350х500. 1 л.

спр. 1092 Беліца Магілёўскай губ. План горада. 1778 г. Каляровая копія. М 20 мм = 50 сажням. Памер 960х620. 1 л.

спр. 1367 Беразіно. План горада. 1805 г. Каляровы. М 25 мм = 100 сажням. 1 л.

спр. 1421 Бабруйск. Альбом чарцяжоў горада, яго ваколіц і ракі Бабруйкі, складзены да праекта асушэння балот. 1833 г. Каляровы. Б/м. Б/п. 29 лл.

спр. 1422 Бабруйск. План горада. Пач. 19 ст. Каляровая копія. М 1 дм = 100 сажням. Памер 510х640. 1 л.

спр. 1423 Бабруйск. Генеральны план крэпасці і ўмацавання «Фрыдрых Вільгельм» з паказам работ, праведзеных у 1828 г. 16.6.1829 г. Каляровы. М 1 дм = 25 сажням. Памер 1525х705. 1 л.

спр. 1424 Бабруйск. Генеральны план крэпасці і ўмацавання «Фрыдрых Вільгельм» з паказам фарштатаў і праектуемых баракаў для брыгады. 6.9.1829 г. Каляровы. М 1 дм = 100 сажням. Памер 730х485. 1 л.

спр. 1425 Бабруйск. Генеральны план крэпасці і ўмацавання «Фрыдрых Вільгельм» з паказам работ, праведзеных у 1829 г. 14.5.1830 г. Каляровы. М 1 дм = 25 сажням. Памер 1600х720. 1 л.

спр. 1426 Бабруйск. Генеральны план крэпасці і ўмацавання «Фрыдрых Вільгельм» з паказам работ, праведзеных у 1930 г. 12.6.1831 г. Каляровы. М 1 дм = 25 сажням. Памер 1540х700. 1 л.

спр. 1427 Бабруйск. Генеральны план крэпасці і ўмацавання «Фрыдрых Вільгельм». 1831 г. Каляровы. М 13 мм = 100 сажням. Памер 203х230. 1 л.

спр. 1428 Бабруйск. Генеральны план крэпасці і ўмацавання «Фрыдрых Вільгельм» з паказам праведзеных і праектуемых работ. 22.9.1831 г. Каляровы. М 1 дм = 25 сажням. Памер 1800х1240. 1 л.

спр. 1429 Бабруйск. Генеральны план крэпасці і ўмацавання «Фрыдрых Вільгельм» з паказам работ, праведзеных у 1831 г. 22.9.1831 г. Каляровы. М 1 дм = 25 сажням. Памер 1530х880. 1 л.

спр. 1430 Бабруйск. Генеральны план крэпасці і ўмацавання «Фрыдрых Вільгельм». 22.8.1832 г. Б/м. 1 л.

спр. 1431 Бабруйск. Генеральны план крэпасці і яе ваколіц з паказам будынкаў у Мінскім фарштаце. 15.10.1832 г. Каляровы. М 1 дм = 50 сажням. Памер 930х630. 1 л.

спр. 1432 Бабруйск. Генеральны план крэпасці і ўмацавання «Фрыдрых Вільгельм» з паказам работ, праведзеных у 1832 г. 14.8.1933 г. Каляровы. М 1 дм = 25 сажням. Памер 1450х705. 1 л.

спр. 1433 Бабруйск. Генеральны план крэпасці і ўмацавання «Фрыдрых Вільгельм» з паказам работ, праведзеных у 1833 г. 9.9.1834 г. Каляровы. М 1 дм = 25 сажням. Памер 1460x790. 1 л.

спр. 1434 Бабруйск. Генеральны план крэпасці і яе ваколіц з паказам месцазнаходжання праектуемага паравога млына за Мінскім фарштатам. 22.4.1835 г. Каляровы. М 1 дм = 100 сажням. Памер 760x430. 1 л.

спр. 1435 Бабруйск. Генеральны план крэпасці і ўмацавання «Фрыдрых Вільгельм» з паказам работ, праведзеных у 1834 г. 31.7.1835 г. Каляровы. М 1 дм = 25 сажням. Памер 1620x920. 1 л.

спр. 1436 Бабруйск. Генеральны план крэпасці і ўмацавання «Фрыдрых Вільгельм». 24.12.1835 г. Каляровы. М 1 дм = 25 сажням. Памер 1840x635. 1 л.

спр. 1437 Бабруйск. Генеральны план крэпасці і ўмацавання «Фрыдрых Вільгельм» з паказам праектуемых работ. 1836 г. Каляровы. М 1 дм = 50 сажням. Памер 960x520. 1 л.

спр. 1438 Бабруйск. Генеральны план крэпасці і ўмацавання «Фрыдрых Вільгельм» з паказам праектуемых умацаванняў і будынкаў. 18.1.1836 г. Каляровы. М 1 дм = 100 сажням. Памер 680x465. 1 л.

спр. 1440 Бабруйск. Генеральны план крэпасці з паказам казённых грамадскіх будынкаў. 24.12.1836 г. М 1 дм = 25 сажням. Памер 710x540. 1 л.

спр. 1441 Бабруйск. Генеральны план крэпасці і яе ваколіц з паказам праведзеных і праектуемых работ. 1.8.1836 г. Каляровы. М 1 дм = 100 сажням. Памер 880x635. 1 л.

спр. 1442 Бабруйск. Генеральны план крэпасці і яе ваколіц з паказам дзялянак лесу, высечанага ў 1829—1835 гг. 24.12.1836 г. Каляровы. М 1 дм = 250 сажням. Памер 950x665. 1 л.

спр. 1443 Бабруйск. Генеральны план крэпасці і ўмацавання «Фрыдрых Вільгельм» з паказам ваенных і прыватных будынкаў. 14.5.1837 г. Каляровы. М 1 дм = 100 сажням. Памер 540x405. 1 л.

спр. 1444 Бабруйск. Генеральны план крэпасці з паказам узбраення. 1840 г. Каляровы. М 1 дм = 25 сажням. Памер 1540x920. 1 л.

спр. 1445 Бабруйск. Генеральны план крэпасці з паказам [атак] 1851 г. Каляровы. М 1 дм = 100 сажням. Памер 520x420. 1 л.

спр. 1446 Бабруйск. План крэпасці з паказам дарог для п· возу гармат. 1877 г. Каляровы. М 1 дм = 25 саж: Памер 960x600. 1 л.

спр. 1447 Бабруйск. Фрагмент генеральнага плана крэпасці з паказам надаўбняў і алей, пабудаваных на эспланадзе ў 1829 г. 14.5.1830 г. Каляровы. М 1 дм = 100 сажням. Памер 415x390. 1 л.

спр. 1448 Бабруйск. Фрагменты генеральнага плана крэпасці з паказам надаўбняў і алей, пабудаваных на эспланадзе ў 1830 г. Чэрвень—лістапад 1830 г. Каляровы. М 1 дм = 100 сажням. Памер 415x390. 1 л.

спр. 1449 Бабруйск. Фрагмент генеральнага плана крэпасці з паказам месцазнаходжання пабудоў 3 рухомых артылерыйскіх паркаў. 12.9.1830 г. Каляровы. М 1 дм = 100 сажням. Памер 398x360. 1 л.

спр. 1450 Бабруйск. Фрагмент генеральнага плана крэпасці з паказам месцазнаходжання прадуктовых лабазаў. 11.6.1831 г. Каляровы. М 1 дм = 25 сажням. Памер 520x405. 1 л.

спр. 1451 Бабруйск. Фрагмент генеральнага плана крэпасці з паказам месцазнаходжання пабудоў 4-га рухомага артылерыйскага парка. 15.3.1832 г. Каляровы. М 1 дм = 100 сажням. Памер 505x365. 1 л.

спр. 1452 Бабруйск. Фрагмент генеральнага плана крэпасці з паказам уезду з боку вайсковага шпіталя. 1832 г. М 1 дм = 10 сажням. Памер 580x450. 1 л.

спр. 1453 Бабруйск. Фрагмент генеральнага плана крэпасці. 31.7.1835 г. Каляровы. М 1 дм = 25 сажням. Памер 385x450. 1 л.

спр. 1454 Бабруйск. Фрагмент генеральнага плана мясцовасці паміж крэпасцю і ўмацаваннем «Фрыдрых Вільгельм». 1.9.1835 г. М 1 дм = 8 сажням. Памер 720x500. 1 л.

спр. 1455 Бабруйск. Фрагмент генеральнага плана крэпасці. 16.8.1836 г. Каляровы. М 1 дм = 50 сажням. Памер 555x245. 1 л.

спр. 1456 Бабруйск. Фрагмент генеральнага плана крэпасці з паказам месцазнаходжання пабудоў рухомых артылерыйскіх паркаў. 1837 г. М 1 дм = 100 сажням. Памер 405x335. 1 л.

спр. 1457 Бабруйск. План часткі крэпасці з паказам месцазнаходжання будынкаў павятовай установы і вучылішча. 1829 г. Каляровая копія. М 1 дм = 25 сажням. Памеры 330x250; 363x270. 2 лл.

спр. 1458 Бабруйск. План часткі крэпасці з паказам месцазнаходжання артылерыйскага склада. 10.12.1830 г. Каляровы. М 1 дм = 25 сажням. Памер 355x480. 1 л.

спр. 1460 Бабруйск. План часткі мясцовасці каля крэпасці з паказам зямлянак і агародаў, адведзеных для войск у г. Бабруйску. 22.2.1833 г. Каляровы. В/м. 1 л.

спр. 1461 Бабруйск. Чарцёж профіляў каналаў, праектуемых для асушэння балот. 16.6.1831 г. Каляровы. М 1 дм = 20 футам. Памер 1145x405. 1 л.

спр. 1462 Бабруйск. План праектуемага люнета перад 1-м і 2-м палігонамі крэпасці. 23.8.1810 г. Каляровая копія. Б/м. 1 л.

спр. 1463 Бабруйск. План асобнага люнета і часткі дарогі, якая злучае крэпасць і ўмацаванне «Фрыдрых Вільгельм», з паказам месцазнаходжання праектуемых пабудоў для 3 рухомых артылерыйскіх паркаў. 17.5.1830 г. Каляровы. М 1 дм = 25 сажням. Памер 225x283. 1 л.

спр. 1464 Бабруйск. Планы і профілі веркаў умацавання «Фрыдрых Вільгельм» з паказам работ, праведзеных у 1828 г. 1829 г. Каляровыя. М 1 дм = 10 футам. Памер 1890x640. 1 л.

спр. 1465 Бабруйск. Планы і профілі веркаў ўмацавання «Фрыдрых Вільгельм» з паказам работ, праведзеных у 1829 г. 11.11.1829 г. Каляровыя. М 1 дм = 20 футам. Памер 2035x965. 1 л.

спр. 1466 Бабруйск. Планы і профілі крапасных веркаў і ўмацавання «Фрыдрых Вільгельм» з паказам работ, праведзеных у 1831 г. 14.8.1832 г. Каляровыя. М 1 дм = 20 футам. Памер 1350x520. 1 л.

спр. 1467 Бабруйск. Планы і профілі веркаў і 2-га шлюза ўмацавання «Фрыдрых Вільгельм» з паказам работ, праведзеных у 1830 г. 12.6.1831 г. Каляровыя. М 1 дм = 10 футам. Памер 1730x780. 1 л.

спр. 1468 Бабруйск. Планы ніжняга і сярэдняга паверхаў мураванай абарончай вежы ўмацавання «Фрыдрых Вільгельм» з паказам канструкцыі пірамід. 6.2.1836 г. Каляровыя. М 1 дм = 10 футам. Памер 430x335. 1 л.

спр. 1469 Бабруйск. Планы і профілі вежы, двух шлюзаў і моста ва ўмацаванні «Фрыдрых Вільгельм» з паказам работ, праведзеных у 1829 г. 14.5.1830 г. Каляровыя. М 1 дм = 20 = 10 футам. Памер 1690x655. 1 л.

спр. 1470 Бабруйск. План і профіль кананіра ў люнеце ўмацавання «Фрыдрых Вільгельм» з паказам праектуемых работ. 29.7.1832 г. Каляровыя. М 1 дм = 10 футам. Памер 315x260. 1 л.

спр. 1471 Бабруйск. Планы і профілі праектуемага цераз канал моста каля першага шлюза ва ўмацаванні «Фрыдрых Вільгельм». 1.3.1829 г. Каляровыя. М 1 дм = 5 футам. Памер 955x606. 2 лл.

спр. 1472 Бабруйск. Профілі лагераў паміж крэпасцю і ўмацаваннем «Фрыдрых Вільгельм» з паказам работ, выкананых у 1835 г. 13.7.1836 г. Каляровы . М 1 дм = 20 футам. Памер 1110x645. 1 л.

спр. 1473 Бабруйск. План мясцовасці паміж умацаваннем «Фрыдрых Вільгельм» і Бярэзінскім фарштатам з паказам канструкцыі агароджы каля шпітальных будынкаў. 21.10.1829 г. Каляровы. М 1 дм = 30 сажням. Памер 335x405. 1 л.

спр. 1474 Бабруйск. Чарцёж фасадаў праектуемых парэнчаў у рэдуце дэмімон. 5.9.1829 г. Каляровы. М 35 мм = 1 аршыну. Памер 300 x 215. 1 л.

спр. 1475 Бабруйск. План і профіль рэдутаў правага і левага плацдармаў 1-га палігона. 27.3.1836 г. Каляровыя. М 1 дм = 20 футам. Памер 520x400. 1 л.

спр. 1476 Бабруйск. План рэдута 2-га палігона з паказам канструкцыі рам у амбразурах і байніцах. 24.5.1836 г. Каляровы. М 1 дм = 10 футам. Памер 430x580. 1 л.

спр. 1477 Бабруйск. Планы крапасных веркаў з паказам работ, праведзеных у 1828 г. 16.6.1829 г. Каляровыя. М 1 дм = 20 футам. Памер 950x640. 1 л.

спр. 1478 Бабруйск. Профілі крапасных веркаў з паказам работ, праведзеных у 1828 г. 16.6.1829 г. Каляровыя. М 1 дм = 20 футам. Памер 2010x640. 1 л.

спр. 1479 Бабруйск. Планы крапасных веркаў з паказам работ, праведзеных у 1829 г. 1.11.1829 г. Каляровыя. М 1 дм = 20 футам. Памер 1300x780. 1 л.

спр. 1480 Бабруйск. Профілі крапасных веркаў з паказам работ, праведзеных у 1829 г. 1.11.1829 г. Каляровыя. М 1 дм = 20 футам. Памер 1570x630. 1 л.

спр. 1481 Бабруйск. Планы крапасных веркаў з паказам работ, праведзеных у 1829 г. 14.5.1830 г. Каляровыя. М 1 дм = 20 футам. Памер 1200x530. 1 л.

спр. 1482 Бабруйск. Профілі крапасных веркаў з паказам работ, праведзеных у 1829 г. 14.5.1830 г. Каляровыя. М 1 дм = 20 футам. Памер 1890x640. 1 л.

спр. 1483 Бабруйск. Планы крапасных веркаў з паказам работ, праведзеных у 1830 г. 12.6.1831 г. Каляровыя. М 1 дм = 20 футам. Памер 1020x545. 1 л.

спр. 1484 Бабруйск. Профілі крапасных веркаў з паказам работ, выкананых у 1830 г. 12.6.1831 г. Каляровыя. М 1 дм = 20 футам. Памер 2070x700. 1 л.

спр. 1485 Бабруйск. План і профілі крапасных веркаў з паказам работ, праведзеных у 1831 г. 22.9.1831 г. Каляровыя. М 1 дм = 20 футам. Памер 1490x700. 1 л.

спр. 1486 Бабруйск. Планы і профілі крапасных веркаў з паказам работ, праведзеных у 1832 г. 14.8.1833 г. Каляровыя. М 1 дм = 20 футам. Памер 1350x500. 1 л.

спр. 1487 Бабруйск. Планы і профілі крапасных веркаў з паказам работ, праведзеных у 1833 г. 9.9.1834 г. Каляровыя. М 1 дм = 20 футам. Памер 1330x600. 1 л.

спр. 1488 Бабруйск. Планы і профілі крапасных веркаў з паказам работ, праведзеных у 1834 г. 31.7.1835 г. Каляровыя. М 1 дм = 20 футам. Памер 925x610. 1 л.

спр. 1489 Бабруйск. Планы і профілі крапасных веркаў з паказам работ, праведзеных у 1835 г. 13.7.1836 г. Каляровыя. М 1 дм = 20 футам. Памер 925x620. 1 л.

спр. 1490 Бабруйск. Планы і профілі крапасных веркаў з паказам работ, праведзеных у 1836 г. 8.6.1837 г. Каляровыя. М 1 дм = 20 футам. Памер 965x655. 1 л.

спр. 1491 Бабруйск. План 1-га і 2-га бастыёнаў. 1831 г. (Частка плана не захавалася). Каляровы. М 1 дм = 100 сажням. Памер 450x600. 1 л.

спр. 1492 Бабруйск. Чарцёж ніжняга паверха вежы прыбярэжнай часткі крэпасці з паказам пашкоджанняў, якія ўтварыліся пры асадцы. 24.12.1830 г. Каляровы. М 1 дм = 10 = 5 футам. Памер 740x555. 1 л.

спр. 1493 Бабруйск. Чарцяжы ніжняга паверха вежы прыбярэжнай часткі крэпасці з паказам пашкоджанняў, якія ўтварыліся пры асадцы. 1831 г. Каляровыя. М 1 дм = 10 = 5 футам Памер 585x465; 525x540. 2 лл.

спр. 1494 Бабруйск. Чарцяжы ніжняга паверха вежы прыбярэжнай часткі крэпасці з паказам пашкоджанняў, якія ўтварыліся пры асадцы. 1832 г. Каляровыя. М 1 дм = 10 футам. Памер 700x480; 570x345. 3 лл.

спр. 1495 Бабруйск. Чарцёж фасада вежы ў вялікім рэдуце прыбярэжнай часткі крэпасці. 1835 г. Каляровы. М 1 дм = 20 футам. Памер 455x285. 1 л.

спр. 1496 Бабруйск. Чарцёж асобнай вежы, размешчанай у даліне р. Бабруйка. 1837 г. Каляровы. М 1 дм = 20 футам. Памер 665x510. 1 л.

спр. 1497 Бабруйск. Чарцёж фасада аконных пераплётаў артылерыйскага цэйхгауза і байніц ніжняга паверха вежы прыбярэжнай часткі крэпасці. 15.11.1841 г. Каляровы. М 1 дм = 10 футам. Памер 455x345. 1 л.

спр. 1498 Бабруйск. План капаніра №4. 12.2.1829 г. Каляровы. М 1 дм = 10 футам. Памер 455x345. 1 л.

спр. 1499 Бабруйск. План і профіль працдарма [з гласісам] какол прыбярэжнай вежы. 20.9.1829 г. Каляровыя. М 1 дм = 10 сажням; 1 дм = 20 футам. Памер 360x500. 1 л.

спр. 1500 Бабруйск. Планы і профілі паўрэданта ў равелінах і крапасных варот. 20.6.1810 г. З пametкай ваеннага міністра Барклая дэ Толі аб зацвярджэнні Аляксандрам І. Каляровая копія. М 17 мм = 10 футам. Памер 630x293. 1 л.

спр. 1501 Бабруйск. Планы і профілі абарончых казематаў у вежы, рэдутах і капанірах з паказам праектуемых работ. 26.1.1835 г. Каляровыя. М 1 дм = 20 футам. Памер 1180x475. 1 л.

спр. 1502 Бабруйск. План прыкладнай атакі на 1-ы равелін і 1-ы бастыён з люнетам. 1851 г. Каляровы. М 1 дм = 25 сажням. Памер 870x600. 1 л.

спр. 1503 Бабруйск. План прыкладнай атакі на 4-ы бастыён і на два сумежныя равеліны з люнетам. 1851 г. Каляровы М 1 дм = 25 сажням. Памер 930x600. 1 л.

спр. 1504 Бабруйск. План даліны р. Бабруйка з паказам узвышшаў над узроўнем вады р. Бярэзіна. 1851 г. Каляровы. М 1 дм = 25 сажням. Памер 930x600. 1 л.

спр. 1505 Бабруйск. План часткі даліны р. Бабруйка з паказам межаў праектуемай сістэмы штучнага навадненне. 1837 г. Каляровы. М 1 дм = 25 сажням. Памер 520x410. 1 л.

спр. 1506 Бабруйск. Планы і профілі старога і новага мастоў цераз р. Бярэзіна. 8.6.1837 г. Каляровыя. М 1 дм = 1 = 2 = 3. Памер 955х640. 1 л.

спр. 1507 Бабруйск. План 7-га палігона крэпасці з паказам насыпу галоўнага вала. 19.6.1829 г. Каляровы. М 1 дм = 10 сажням. Памер 515х315. 1 л.

спр. 1508 Бабруйск. Чарцёж фасадаў чыгунных дэталяў варот равеліна 6-га палігона. 30.1.1829 г. Каляровы. М 1 дм = 1 футу. Памер 580х510. 1 л.

спр. 1509 Бабруйск. Чарцёж часткі кардэгарды ў равеліне 6-га палігона з паказам амбразур. 20.1.1831 г. Каляровы. М 1 дм = 5 футам. Памер 305х370. 1 л.

спр. 1510 Бабруйск. План размяшчэння будынкаў крэпасці. 14.12.1833 г. Каляровы. М 1 дм = 10 сажням. Памер 325х343. 1 л.

спр. 1511 Бабруйск. План размяшчэння часткі будынкаў у крэпасці. 21.12.1834 г. Каляровы. М 1 дм = 25 сажням. Памер 560х315. 1 л.

спр. 1512 Бабруйск. Чарцёж мураванага парахавога пограба для захавання 1500 пудоў пораху. З паметкай ваеннага міністра Барклая дэ Толі аб зацвярджэнні Аляксандрам І. 1810 г. Каляровая копія. М 1 дм = 10 футам. Памер 470х280. 1 л.

спр. 1513 Бабруйск. Чарцёж мураваных парахавых паграбоў (№№ 61, 62, 64). 19.3.1832 г. Каляровы. М 1 дм = 10 футам. Памер 1010х660. 1 л.

спр. 1514 Бабруйск. Генеральны план Бярэзінскага, Мінскага і Слуцкага фарштатаў з паказам будынкаў, прызначаных для пераносу. 18.11.1830 г. Каляровы. М 1 дм = 500 сажням. Памер 1240х635. 1 л.

спр. 1515 Бабруйск. Фрагмент генеральнага плана Мінскага фарштата з паказам размяшчэння праектуемых магазінаў. 1829—1830 гг. Каляровы. М 1 дм = 25 сажням. Памер 328х505. 1 л.

спр. 1516 Бабруйск. Фрагмент генеральнага плана Мінскага фарштата. 30.12.1832 г. М 1 дм = 50 сажням. Памер 355х220. 1 л.

спр. 1517 Бабруйск. План Мінскага і Слуцкага фарштатаў з паказам будынкаў, што ўзводзяцца. 4.10.1828 г. Каляровая копія. М 1 дм = 50 сажням. Памер 1110х715. 1 л.

спр. 1518 Бабруйск. План Мінскага і Слуцкага фарштатаў з паказам будынкаў, што ўзводзяцца і рамантуюцца.

29.3.1829 г. Каляровы. М 1 дм = 50 сажням. Памер 850x635. 1 л.

спр. 1519 Бабруйск. Генеральны план Мінскага і Слуцкага фарштатаў з паказам участкаў, адведзеных пад будаўніцтва жылля для жыхароў горада. 1850 г. Каляровая копія. М 1 дм = 100 сажняў. Памер 640x400. 1 л.

спр. 1520 Бабруйск. План фарштатаў з паказам эспланаднай лініі. 1851 г. Копія. М 1 дм = 100 сажням. Памер 640x545. 1 л.

спр. 1521 Бабруйск. Чарцёж парома на р. Бярэзіна. 8.6.1837 г. Каляровы. М 1 дм = 10 футам. Памер 510x390. 1 л.

спр. 1522 Бабруйск. Чарцёж 2-павярховага мураванага арсенала ў крэпасці. 10.8.1810 г. З паметкай ваеннага міністра Барклая дэ Толі аб зацвярджэнні Аляксандрам I. Каляровая копія. М 18 мм = 1 сажню. Памер 485x650. 1 л.

спр. 1523 Бабруйск. Чарцёж кузні і будынкаў артылерыйскага ведамства. 19.3.1832 г. Каляровы. М 1 дм = 10 футам. Памер 1520x665. 1 л.

спр. 1524 Бабруйск. Планы і профілі кузні і «людской». 24.11.1832 г. М 1 дм = 10 футам. Памер 670x370. 1 л.

спр. 1525 Бабруйск. Чарцёж лабараторыі для паяння. 21.8.1849 г. Каляровы. М 1 дм = 25 футам. Памер 205x320. 1 л.

спр. 1526 Бабруйск. Чарцёж артылерыйскага склада. 10.12.1830 г. Каляровы. М 1 дм = 10 футам. Памер 980x525. 1 л.

спр. 1527 Бабруйск. Чарцёж будынкаў для захавання лафетаў і платформ. 1836 г. Каляровы. М 17 мм = 1 сажню. Памер 725x525. 2 лл.

спр. 1528 Бабруйск. План парахавога пограба № 61 з паказам палісада. 24.6.1833 г. Каляровы. М 1 дм = 10 футам. Памер 425x335. 1 л.

спр. 1529 Бабруйск. Чарцёж шатра на казённых цагельных заводах з паказам печы для абпалу цэглы. Б/д. Каляровы. М 12 мм = 1 сажню. Памер 425x590. 1 л.

спр. 1530 Бабруйск. План і профіль павеці на цагельным заводзе. 8.6.1841 г. М 1 дм = 10 футам. Памер 535x370. 1 л.

спр. 1531 Бабруйск. Чарцёж павеці для цэглы. 13.10.1859 г. Каляровы. М 1 дм = 25 футам. Памер 200х310. 1 л.

спр. 1532 Бабруйск. Чарцёж павеці для цэглы. 30.11.1863 г. М 1 дм = 25 футам. Памер 410х320. 1 л.

спр. 1533 Бабруйск. Профіль доследнай укладкі цэглы пры ўзвядзенні будынкаў. 7.1.1834 г. Каляровы. М 6 мм = 1 дм. Памер 640х540. 1 л.

спр. 1534 Бабруйск. Планы і фасады дома для афіцэраў з паказам пакояў для канцылярыі. 1830 г. Каляровыя. М 9 мм = 1 аршыну. Памер 520х735. 1 л.

спр. 1535 Бабруйск. Чарцяжы будынка павятовага вучылішча. 1828—1833 гг. Каляровыя. М 8 мм = 1 = 3 сажням. Памер ад 343х520 да 640х650. 6 лл.

спр. 1536 Бабруйск. Чарцёж павятовага вучылішча з паказам канструкцыі агароджы. 1833 г. Каляровы. М 1 дм = 10 футам. Памер 920х450. 1 л.

спр. 1537 Бабруйск. Чарцёж мураванай гаўптвахты ў крэпасці. Каляровая копія. З паметкай ваеннага інжынера Барклая дэ Толі аб зацвярджэнні Аляксандрам I. 1810 г. Каляровая копія. М 18 мм = 4 футам. Памер 420х620. 1 л.

спр. 1538 Бабруйск. Планы і профілі дома камендaнта ( 66), баракаў і дапаможных будынкаў з паказам работ, праведзеных у 1834 г. 31.7.1835 г. Каляровыя. М 1 дм = 7 = 10 футам. Памер 940х610. 1 л.

спр. 1539 Бабруйск. Фрагмент плана верхняга паверха дома камендaнта з паказам пакояў для імператара. 1828 г. Каляровы. М 42 мм = 5 сажням. Памер 352х250. 1 л.

спр. 1540 Бабруйск. Чарцёж мураванай кардэгарды ў крэпасці. З паметкай ваеннага міністра Барклая дэ Толі аб зацвярджэнні Аляксандрам I. 1810 г. Каляровая копія. М 18 мм = 7 футам. Памер 445х570. 1 л.

спр. 1541 Бабруйск. Планы і профілі кардэгарды № 41 каля Мінскіх варот. 13.6.1836 г. Каляровыя. М 1 дм = 10 футам. Памер 530х410. 1 л.

спр. 1542 Бабруйск. Чарцяжы дома для сямейных салдат; печаў для абпалкі цэглы; падсобных памяшканняў. 20.6.1828 г. Каляровыя. М 1 дм = 10 футам. Памер 1380х513. 1 л.

спр. 1543 Бабруйск. План і профіль казармы № 41 з паказам шашэйнай дарогі. 20.6.1828 г. Каляровы. М 1 дм = 10 футам. Памер 1500х625. 1 л.

спр. 1544 Бабруйск. План і профіль часткі казармы № 41 каля Слуцкіх варот. 1828—1829 гг. Каляровыя. М 1 дм = 10 футам. Памер 920x925; 1400x610. 3 лл.

спр. 1545 Бабруйск. Планы і профілі верхняга паверха казармы № 41 і пантоннага склада № 155. 16.6.1829 г. Каляровыя. М 1 дм = 10 футам. Памер 1550x905. 1 л.

спр. 1546 Бабруйск. Планы і профілі верхняга паверха казармы № 41 і парахавога пограба № 61. 14.5.1830 г. Каляровыя. М 1 дм = 10 футам. Памер 1260x535. 1 л.

спр. 1547 Бабруйск. Чарцёж арыштанцкай казармы № 106 на цагельным заводзе. 12.6.1831 г. Каляровы. М 1 дм = 10 футам. Памер 485x395. 1 л.

спр. 1548 Бабруйск. Планы і профілі казармы № 41, пав..товага вучылішча, дома для афіцэраў і вежы для гадзінніка. 12.6.1831 г. Каляровыя. М 1 дм = 10 футам. Памер 1030x1060. 1 л.

спр. 1549 Бабруйск. Планы і профілі казармы № 41, павятовага вучылішча, царквы св. Мікалая і багадзельні. 22.9.1831 г. Каляровыя. М 1 дм = 10 футам. Памер. 930x975. 1 л.

спр. 1550 Бабруйск. Чарцёж казармы і дома для афіцэраў артылерыйскага ведамства. 19.3.1832 г. Каляровы. М 1 дм = 10 футам. Памер 1450x670. 1 л.

спр. 1551 Бабруйск. Планы і профілі казармы № 41. 14.8.1833 г. Каляровыя. М 1 дм = 10 футам. Памер 1070x510. 1 л.

спр. 1552 Бабруйск. Планы і профілі салдацкай казармы ў [Тэт-дэ-понэ]. 5.4.1834 г. М 1 дм = 10 футам. Памер 630x420. 1 л.

спр. 1553 Бабруйск. Планы і профілі казармы № 41 і дапаможных будынкаў. 1834—1835 гг. Каляровыя. М 1 дм = 10 = 7 футам. Памер 920x610; 1035x725. 2 лл.

спр. 1554 Бабруйск. Планы і профілі будынкаў 4-га сапёрнага батальёна. 1834 г. Каляровыя. М 1 дм = 10 футам. Памер 615x430. 1 л.

спр. 1555 Бабруйск. Планы і профілі жылых дамоў 4-га сапёрнага батальёна. 1834 г. Каляровыя. М 1 дм = 10 футам. Памер 615x430. 1 л.

спр. 1556 Бабруйск. Чарцёж казармаў для арыштантаў. 1835, 1866 гг. М 1 дм = 25 фунтам. Памер 205x320; 450x425. 2 лл.

спр. 1557 Бабруйск. Планы і фасады казармаў №№ 14, 59. 24.12.1836 г. Каляровыя. М 1 дм = 20 футам. Памер 740x560. 1 л.

спр. 1558 Бабруйск. Планы і профілі арыштанцкай казармы афіцэрскага барака і дапаможных будынкаў з паказам работ, праведзеных у 1836 г. 8.6.1837 г. Каляровыя. М 1 дм = 10 футам. Памер 1000x585. 1 л.

спр. 1559 Бабруйск. Чарцёж казармы і печы для абпалу цэглы на цагельным заводзе. 31.3.1848 г. М 1 дм = 25 футам. Памер 610x315. 1 л.

спр. 1560 Бабруйск. Чарцёж салдацкіх казармаў у крэпасці. З пазметкай ваеннага міністра Барклая дэ Толі аб зацвярджэнні Аляксандрам І. 1811 г. М 1 дм = 2 сажням. Памер 630x500. 1 л.

спр. 1561 Бабруйск. План і профілі барака. 20.10.1835 г. М 17 мм = 7 футам. Памер 498x410. 1 л.

спр. 1562 Бабруйск. Чарцяжы салдацкіх баракаў. 1838—1840. М 1 дм = 10 футам. Памер 460x420; 540x450. 2 лл.

спр. 1563 Бабруйск. Планы і профілі салдацкіх баракаў. 1843 г. М 1 дм = 10 футам. Памер ад 525x340 да 300x360. 3 лл.

спр. 1564 Бабруйск. План і фасад дома батальённага камандзіра. 1827 г. М 17 мм = 10 сажням. Памер 250x335. 1 л.

спр. 1565 Бабруйск. Планы паверхаў афіцэрскага дома. 12.11.1828 г. Каляровыя. М 8 мм = 1 сажню. Памер 580x460. 2 лл.

спр. 1566 Бабруйск. Профілі фасадаў афіцэрскіх дамоў. Архітэктар Штаўберт. 12.11.1828 г. Каляровыя. М 42 мм = 5 сажням; 18 мм = 1 сажню. Памер 575x460. 2 лл.

спр. 1567 Бабруйск. Фасад афіцэрскага дома № 32 з паказам канструкцыі вежы для гадзінніка. 1830 г. Каляровы. М 9 мм = аршыну. Памер 525x355. 1 л.

спр. 1568 Бабруйск. Чарцёж афіцэрскага дома, лабараторыі і дапаможных будынкаў артылерыйскага ведамства. 19.3.1832 г. Каляровы. М 1 дм = 10 футам. Памер 1845x660. 1 л.

спр. 1569 Бабруйск. План афіцэрскага дома на Мінскім фарштаце. 4.6.1840 г. М 1 дм = 10 футам. Памер 455x540. 1 л.

спр. 1570 Бабруйск. Чарцяжы планаў і профіляў афіцэрскага дома. 1845—1863 гг. М 1 дм = 25 футам. Памер ад 600x320 да 205x320. 3 лл.

спр. 1571 Бабруйск. План і фасад праектуемай вежы для гадзінніка на даху афіцэрскага дома № 32. 1830 г. Каляровы. М 34 мм = 1 сажню. Памер 260x355. 1 л.

спр. 1572 Бабруйск. Планы і профілі афіцэрскіх баракаў. 1834 г. Каляровыя. М 1 дм = 10 футам. Памер 400x295. 1 л.

спр. 1573 Бабруйск. Чарцёж салдацкіх і афіцэрскіх баракаў. 1839—1855 гг. Каляровы. М 1 дм = 25 футам. Памер 400x310. 10 лл.

спр. 1574 Бабруйск. Чарцёж афіцэрскіх баракаў. 16.3.1859 г. М 1 дм = 25 футам. Памер 400x320. 1 л.

спр. 1575 Бабруйск. Планы і фасад 2-павярховага будынка з вежай для каманды брандмайстра і пажарнага інструменту. 21.12.1833 г. Каляровыя. М 1 дм = 10 футам. Памер 525x360. 1 л.

спр. 1576 Бабруйск. Чарцёж фасада прыватнага мураванага дома ў крэпасці. 3.4.1818 г. Каляровая копія. М 20 мм = 1 сажню. Памер 343x245. 1 л.

спр. 1577 Бабруйск. Чарцяжы жылых дамоў у крэпасці. 1842—1848 гг. М 1 дм = 10 = 25 футам. Памер ад 620x410 да 350x270. 4 лл.

спр. 1578 Бабруйск. Планы і фасады драўляных дамоў №№ 5, 42. 24.12.1836 г. Каляровыя. М 1 дм = 20 футам. Памер 640x498. 1 л.

спр. 1579 Бабруйск. План і фасад аднаго з драўляных дамоў інваліднай каманды, прызначанага на знос. 30.4.1838 г. М 17 мм = 1 сажню. Памер 190x310. 1 л.

спр. 1580 Бабруйск. Чарцёж будынка для сямейных салдат рухомай інваліднай роты. 30.5.1860 г. Каляровы. М 1 дм = 25 футам. Памер 200x320. 1 л.

спр. 1581 Бабруйск. План размяшчэння будынкаў вайскова-рабочых рот у Мінскім фарштаце. 20.6.1828 г. Каляровы. М 1 дм = 50 сажням. Памер 355x498. 1 л.

спр. 1582 Бабруйск. Чарцёж дома № 130 для салдат вайскова-рабочай роты дзяржаўнага цагельнага завода.

10.11.1859 г. Арыгінал. Каляровы. М 1 дм = 25 футам. Памер 205x320. 1 л.

спр. 1583 Бабруйск. Чарцёж дома № 131 для салдат вайскова-рабочай роты дзяржаўнага цагельнага завода. 23.11.1859 г. Арыгінал. М 1 дм = 25 футам. Памер 205x320. 1 л.

спр. 1584 Бабруйск. Чарцёж баракаў для рабочай брыгады. 1.5.1830 г. Каляровы. М 17 мм = 1 сажню. Памер 700x510. 1 л.

спр. 1585 Бабруйск. Чарцяжы будынкаў для рабочых. 1844-1845 гг. М 1 дм = 25 футам. Памер 620x410. 2 лл.

спр. 1586 Бабруйск. Чарцяжы зямлянак для майстэрняў і салдат інжынернай каманды. 1857—1859 гг. Каляровыя. М 1 дм = 25 футам. Памер 200x320. 3 лл.

спр. 1587 Бабруйск. Чарцёж зямлянак у лагерах для сямейных салдат. 15.10.1832 г. Каляровы. М 1 дм = 1 сажню. Памер 355x215. 1 л.

спр. 1588 Бабруйск. План і профілі шпіталя. 1829 г. Каляровыя. М 9 мм = 1 футу. Памер 690x740. 1 л.

спр. 1589 Бабруйск. План і профіль ваеннага шпіталя. 14.5.1930 г. Каляровыя. М 1 дм = 10 футам. Памер 1040x945. 1 л.

спр. 1590 Бабруйск. План і профілі ваеннага шпіталя. 12.6.1831 г. Каляровыя. М 1 дм = 10 футам. Памер 1100x545. 1 л.

спр. 1591 Бабруйск. План і профілі ваеннага шпіталя. 22.9.1831 г. Каляровыя. М 1 дм = 10 футам. Памер 980x740. 1 л.

спр. 1592 Бабруйск. Планы і профілі ваеннага шпіталя. 14.8.1832 г. Каляровыя. М 1 дм = 10 футам. Памер 1115x890. 1 л.

спр. 1593 Бабруйск. Фасад і профіль ваеннага шпіталя з паказам канструкцыі дзвярэй на ніжнім паверсе. 30.9.1832 г. Каляровыя. М 8 мм = 1 сажню. Памер 630x470. 1 л.

спр. 1594 Бабруйск. Планы і профілі ваеннага шпіталя. 14.8.1833 г. Каляровыя. М 1 дм = 10 футам. Памер 960x735. 1 л.

спр. 1595 Бабруйск. Планы і профілі ваеннага шпіталя. 9.9.1834 г. Каляровыя. М 1 дм = 10 футам. Памер 955x610. 1 л.

спр. 1596 Бабруйск. Чарцёж будынкаў ваеннага шпіталя. 14.5.1837 г. Каляровы. М 1 дм = 20 футам. Памер 840x620. 1 л.

спр. 1597 Бабруйск. Чарцёж будынка № 86 ваеннага шпіталя. 14.5.1837 г. Каляровы. М 8 мм = 1 футу. Памер 840x565. 1 л.

спр. 1598 Бабруйск. Планы паверхаў ваеннага шпіталя. 1832—1839 гг. Каляровыя. М ад 8 мм = 1 футу да 1 дм = 10 футам. Памер ад 560x445 да 870x565. 3 лл.

спр. 1599 Бабруйск. План і профіль даху галоўнага корпуса № 56 ваеннага шпіталя. 1872 г. Арыгінал. Каляровы. М 1 дм = 25 футам. Памер 615x320. 1 л.

спр. 1600 Бабруйск. Чарцёж летніх баракаў ваеннага шпіталя пры ўмацаванні «Фрыдрых Вільгельм». 8.8.1834 г. Каляровы. М 1 дм = 2 сажням. Памер 765x535. 1 л.

спр. 1601 Бабруйск. Чарцяжы летніх будынкаў ваеннага шпіталя на эспланадзе (за ўмацаваннем «Фрыдрых Вільгельм»). Б/д. Каляровыя. М 1 дм = 10 футам. Памер 1000x530.

спр. 1602 Бабруйск. Чарцёж кухні пры летніх шпіталях з паказам памяшканняў для вартаўнікоў. 11.3.1843 г. М 1 дм = 10 футам. Памер 295x450. 1 л.

спр. 1603 Бабруйск. Чарцёж кухні № 100 пры летніх шпіталях. 1847—1848 гг. Арыгінал. Каляровы. М 1 дм = 25 футам. Памер 410x320. 2 лл.

спр. 1604 Бабруйск. Чарцёж шпітальнай пральні № 104. 1847—1860, 1862 гг. Арыгінал. М 1 дм. = 25 футам. Памер 205x320. 3 лл.

спр. 1605 Бабруйск. Чарцяжы лазні № 101 пры летніх шпітальных будынках. 1853—1861 гг. Арыгінал. Каляровы. М 1 дм = 25 футам. Памер 205x320. 2 лл.

спр. 1606 Бабруйск. Планы і профілі дапаможных будынкаў пры ваенным шпіталі ва ўмацаванні «Фрыдрых Вільгельм». 1836 г. Каляровы. М 1 дм = 10 = 20 футам. Памер 610x415. 1 л.

спр. 1607 Бабруйск. Чарцёж профіляў праезду з боку ваеннага шпіталя. 1832 г. М 9 мм = 1 сажню. Памер 460x570. 1 л.

спр. 1608 Бабруйск. План лагераў сапёрных батальёнаў. 16.11.1834 г. Каляровы. М 1 дм = 25 сажням. Памер 1110x460. 1 л.

спр. 1609 Бабруйск. Профілі лагераў паміж крэпасцю і ўмацаваннем «Фрыдрых Вільгельм». 8.6.1837 г. Ка-

ляровыя. М 1 дм = 20 футам. Памер 1010x485. 1 л.

спр. 1610 Бабруйск. Планы і профілі будынкаў канцылярыі, афіцэрскага барака і дапаможных будынкаў у лагерах за былым Парыцкім фарштатам. 13.7.1836 г. Каляровыя. М 1 дм = 10 футам. Памер 630x495. 1 л.

спр. 1611 Бабруйск. План размяшчэння баракаў у лагерах сапёрных батальёнаў. 18.12.1834 г. Каляровы. М 1 дм = 25 сажням. Памер 430x455. 1 л.

спр. 1612 Бабруйск. Чарцёж аптэкі, канцылярыі, лазарэта і дапаможных будынкаў 4-га сапёрнага батальёна. 1834 г. Каляровы. М 1 дм = 10 футам. Памер 610x460. 1 л.

спр. 1613 Бабруйск. Планы і профілі канцылярыі, лазарэта, аптэкі і дапаможных будынкаў у лагерах сапёрнага батальёна. 10.5.1835 г. Каляровыя. М 1 дм = 10 футам. Памер 670x520. 1 л.

спр. 1614 Бабруйск. Генеральны план размяшчэння баракаў у лагеры за былым Парыцкім фарштатам. 6.11.1836 г. Каляровы. М 1 дм = 25 сажням. Памер 1020x640. 1 л.

спр. 1615 Бабруйск. Планы і профілі баракаў у лагеры за былым Парыцкім фарштатам. 1833—1837 гг. Каляровыя. М 17 мм = 1 сажню. Памер 520x415 і 575x455. 5 лл.

спр. 1616 Бабруйск. Планы і профілі лазарэта, службовых і дапаможных будынкаў у лагерах 2-га рэзервовага сапёрнага батальёна. 1834 г. Каляровыя. М 1 дм = 10 футам. Памер 620x430. 1 л.

спр. 1617 Бабруйск. План часткі вежы з басейнам для 2-га рэзервовага сапёрнага батальёна ў лагерах за былым Парыцкім фарштатам. 1834 г. Каляровы. М 1 дм = 10 футам. Памер 555x365; 695x605. 2 лл.

спр. 1618 Бабруйск. План ганкаў саборнай царквы св.Аляксандра Неўскага. 1829—1830 гг. Арыгінал. М 5 мм = 1 сажню; 1 дм = 2 футам. Памер 425x280; 445x650. 1 л.

спр. 1619 Бабруйск. План і фасад аркі ў саборнай царкве св. Аляксандра Неўскага. 8.7.1830 г. Каляровыя. М 1 дм = 2 футам. Памер 445x650. 1 л.

спр. 1620 Бабруйск. План часткі Слуцкага фарштата і багадзельні св. Мікалая, 3.8.1828 г. Каляровы. М 1 дм = 50 сажням. Памер 350x475. 1 л.

спр. 1621 Бабруйск. Планы і профілі будынкаў павятовага вучылішча, казармы, багадзельні, царквы і дапаможных будынкаў з паказам работ, праведзсных у 1831 г. 14.8.1832 г. Каляровыя. М 1 дм = 10 футам. Памер 1245x1070. 1 л.

спр. 1622 Бабруйск. Чарцёж іканастаса царквы св. Мікалая ў Слуцкім фарштаце. 1832 г. Каляровая копія. М 17 мм = 1 сажню. Памер 445x265. 1 л.

спр. 1623 Бабруйск. Планы і профілі багадзельні і царквы з паказам работ, праведзеных у 1832 г. 14.8.1833 г. Каляровыя. М 1 дм = 10 футам. Памер 545x430. 1 л.

спр. 1624 Бабруйск. Фасад і разрэз касцёла езуітаў, прызначанага пад склад артылерыйскіх снарадаў. З паметкай ваеннага міністра Барклая дэ Толі аб зацвярджэнні Аляксандрам I. 1810 г. Каляровая копія. М 1 дм = 10 футам. Памер 345x510. 1 л.

спр. 1625 Бабруйск. Чарцёж мураваных 2-павярховых цэйхгаузаў артылерыйскага ведамства. 14.3.1832 г. Каляровы. М 1 дм = 10 футам. Памер 1010x675. 1 л.

спр. 1626 Бабруйск. Чарцёж мураванага правіянцкага магазіна. 13.8.1810 г. З паметкай ваеннага міністра Барклая дэ Толі аб зацвярджэнні Аляксандрам I. Каляровая копія. М 16 мм = 7 футам. Памер 650x500. 1 л.

спр. 1627 Бабруйск. Чарцёж правіянцкіх магазінаў №№ 191 і 119, перададзеных у інжынернае ведамства. 15.4.1836 г. Каляровы. М 16 мм = 1 сажню; 10 дм = 10 футам. Памер 1380x650. 1 л.

спр. 1628 Бабруйск. Чарцёж правіянцкага магазіна і лабаза, перададзеных у інжынернае ведамства. 15.4.1836 г. Каляровы. М 1 дм = 10 футам. Памер 960x610. 1 л.

спр. 1629 Бабруйск. Генеральны план Мінскага і Слуцкага фарштатаў з паказам размяшчэння ветранога млына і піваварні. 16.12.1830 г. М 1 дм = 50 сажням. Памер 720x523. 1 л.

спр. 1630 Бабруйск. План і фасады магазіна ў Мінскім фарштаце. 1829—1830 гг. Каляровыя. М 10 дм = 1 сажню. Памер 505x360. 1 л.

спр. 1631 Бабруйск. Чарцёж правіянцкага лабаза на Мінскім фарштаце. 29.4.1867 г. М 1 дм = 25 футам = 100 сажням. Памер 200x320. 1 л.

спр. 1632 Бабруйск. План і профіль арыштанцкай кухні пры цагельным заводзе. 25.6.1862 г. Каляровы. М 1 дм = 25 футам. Памер 200x310. 1 л.

спр. 1633 Бабруйск. Чарцёж арыштанцкай лазні. 1844—1860 гг. Каляровы. М 1 дм = 25 футам. Памер ад 200x310 да 400x320. 5 лл.

спр. 1634 Бабруйск. Чарцёж дапаможных будынкаў артылерыйскага ведамства з паказам работ, праведзеных у 1832 г. 14.8.1833 г. Каляровы. М 1 дм = 1 футу. Памер 595x350. 1 л.

спр. 1635 Бабруйск. Планы і профілі дапаможных будынкаў 2-га рэзервовага сапёрнага батальёна. 1834 г. Каляровы. М 1 дм = 10 футам. Памер 480x720. 1 л.

спр. 1636 Бабруйск. Чарцёж каравульных будынкаў. 1844—1862 гг. Каляровы. М 1 дм = 25 футам. Памер ад 200x320 да 400x310. 7 лл.

спр. 1637 Бабруйск. План сада пры каменданцкім доме № 66 з паказам канструкцыі агароджы. 31.1.1830 г. Каляровы. М 1 дм = 1 сажню. Памер 410x355. 1 л.

спр. 1638 Бабруйск. План і фасад чыгуннай агароджы ў рэдуце. 1829 г. Каляровы. М 29 мм = 166 вярстам; 1 дм = 5 футам. Памеры 182x268; 523x400. 2 лл.

спр. 1639 Бабруйск. Чарцёж мураванай агароджы пры лазарэце. 20.4.1841 г. Каляровы. М 1 дм = 25 футам. Памер 200x310. 1 л.

спр. 1640 Бабруйск. Чарцёж агароджы пры летніх шпітальных будынках, пабудаванай у 1846 г. 24.3.1847 г. М 1 дм = 5 футам. Памер 318x200. 1 л.

спр. 1650 Схема тэлеграфнай лініі на чыгунцы Балагое—Полацк. Б/д. Б/м. Памер 985x355. 1 л.

спр. 1653 Барысаў Мінскай губ. План горада. Пач. 19 ст. Каляровая копія. М 1 дм = 100 сажням. Памер 500x650. 1 л.

спр. 1671 Брэст. План горада. 1809 г. Каляровы. М 25 мм = 100 сажням. Памер 486x650. 1 л.

спр. 1672 Брэст-Граеўская чыгунка. Выкапіроўка з падоўжнага профілю ўчастка чыгункі. Б/д. Б/м. Памер 655x940.

спр. 1673 Брэст. План горада і крэпасці з ваколіцамі. Б/д. Сінька. М 1 дм = 1 вярсце. Памер 740x675. 3 лл.

спр. 1674 Брэст. Генеральны план крэпасці з паказам размяшчэння праектуемых павецей для захавання нараз-

